Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 10 (62) | Вільня, 10-га траўня 1935 г. | Год 3-ці.

## Рашучая зьмена курсу савецкай палітыкі.

2-га мая г. г. у Парыжу падпісаны француска-савецкі дагавор, згодна з каторым абедзьве дзяржавы абавязаліся:

1) У прыпадку, калі-б СССР або Францыі пагражала небясьпека нападу з боку якой небудзь эўрапейскай дзяржавы, Францыя і СССР абавязваюцца зараз-жа прыступіць да супольнай консультацыі дзеля прыняцьця мераў для ўтрыманьня правамоцнасьці пастановаў 10 арт. статуту Лігі Нацый.

2) У прыпадку, калі ў варунках, прадбачаных 15 арт. 7 § статуту Лігі Нацый, СССР або Францыя зьявіліся-б, ня гледзячы на іх шчырыя мірныя намеры, прадметам нявыклііканага імі нападу з боку якой небудзь эўрапейскай дзяржавы, Францыя і ўзаемна СССР акажуць зараз-жа адзін другому помач і падтрыманьне.

3) Прыймаючы пад увагу, што згодна з 16 арт. статуту Лігі Нацый, кожны сябра Лігі, які пачне вайну ня гледзячы на прынятыя на сябе абавязаньні ў 12, 13 або 15 арт. статуту, разглядаецца, як-бы пачаў вайну з усімі іншымі сябрамі Лігі, — СССР і ўзаемна Францыя абавязваюцца, калі ў такіх варунках адна з іх акажацца, не зважаючы на шчырыя мірныя намеры абедзьвёх дзяржаваў, прадметам нявыкліканага імі нападу з боку якой небудзь эўрапейскай дзяржавы, прыйсьці зараз-жа адзін другому з дапамогаю і падтрыманьнем, дзеючы згодна з 16 арт. статуту.

Тыя самыя абавязаньні прыймаюцца на прыпадак, калі СССР або Францыя зьявіліся-б прадметам нападу з боку эўрапейскай дзяржавы ў умовах, прадбачаных 1 і 3 §§ 17-га арт. статуту Лігі Нацыі.

4) Дзеля таго, што вышэй пастаноўленыя абавязаньні зьяўляюцца адпаведнымі абавязаньням высокіх дагаворных старон, як сяброў Лігі Нацыі, нічога ў гэтым дагаворы ня будзе інтэрпрэтавацца ў сэнсе агранічэньня правоў Лігі ў прыйме мераў, якія могуць эфэктыўна апраўдаць агульны мір, або ў сэнсе агранічэньня абавязаньняў, вынікаючых для дагаворных старон, як сяброў Лігі Нацыі.

Пяты арт. дагавору адносіцца да яго фармальнага боку, пры чым зазначана, што дагавор спісаны ў двух, аднолькава важных экзэмплярах.

Як бачым з гэтага, савецкая палітыка за апошніх 15 гадоў прайшла вельмі характэрны шлях. Пасьля кастрычнікавай рэвалюцыі 1917 году, бальшавікі спачатку скіравалі сваю энэргію на захад, але хутка пераканаліся, што з „гнілым" захадам нельга нічога зрабіць. Акцыя 3-га інтэрнацыяналу сапткалася на захадзе з вялікімі перашкодамі, а доўгія гады эканамічнай катастрофы савецкай Расеі, выклікалі амаль што поўную яе гаспадарчую ізоляцыю. Наставленьне на сусьветную рэвалюцыю, з якім бальшавікі падходзілі да кожнай ня толькі палітычнай, але й эканамічнай акцыі, давяло да таго, што нават тыя дзяржавы, якія спачатку былі ўцягнены Саветамі ў гандлёвыя зносіны, хутка наадрэз адмовіліся ад усякага супрацоўніцтва.

Усё гэта змусіла Саветаў скіраваць свае вочы на ўсход і пачаць там энэргічную, пляновую працу. Савецкія агенты, згодна з інструкцыяй Комінтэрну, пачалі вельмі спрытна выкарыстоўваць нацыянальна-вызвольныя рухі азіяцкіх народаў, хочучы зьвязаць іх з лёсам камуністычнае рэвалюцыі.

У гэтай акцыі Саветы пакладалі вялікую надзею перадусім на Кітай, думаючы, што ім удасца выкарыстаць унутраную барацьбу гэтага краю для сваіх мэтаў. Аднак хутка пабачылі, што іх пляны і тут становяцца нерэальнымі. Наадварот, Азія, каторую можна сказаць разбудзілі з векавечнага сну галоўным чынам бальшавікі, прычыніла ім найбольш клопату і прыкрасьцяў.

Да такога некарыстнага для савецкай Расеі стану рэчы на Далёкім Усходзе прычынілася, як ведама, Японія, якая выкарыстаўшы савецкую працу ў Кітаю, змусіла Саветы адыйсьці ня толькі з занятых пазыцыяў на Далёкім Усходзе, але й у сярэдняй Азіі. Такім чынам азіяцкую гульню Саветы канчальна прайгралі.

Адначасна з гэтым псуюцца адносіны бальшавікоў і з Нямеччынай, асабліва калі ў апошняй дайшоў да ўлады Гітлер.

Ад гэтага часу савецкая дыплёмацыя крута зьмяняе сваю палітыку й пачынае шукаць новых шляхоў.

Першым этапам на гэтым новым шляху савецкае палітыкі была Польшча, з каторай заключаецца „пакт аб ненагрэсіі". З хвілінаю, калі ў заходняй Эўропе пачынаецца больш энэргічная акцыя супроць узросту нямецкай магутнасьці, савецкая Расея стараецца ўлезьці ў лагер тых дзяржаваў, якія ходзяцца над арганізацыяй асглаўленых „антывайенных" плянаў. Урэшце бачым савецкую Расею ў Лізе Народаў, дзе яна й здабывае сабе сталое месца ў яе Радзе. Адначасна пачынаецца „флірт" з Францыяй ды гутаркі з Англіяй адносна азіяцкіх справаў.

Паездка ангельскага міністра Ідэна ў Маскву, дагавор з Францыяй ды паездка ў савецкую Расею францускага мініства замежных справаў Ляваля, сьведчаць аб тым, што Саветам удалося зьдзейсьніць першую чястку свайго новага пляну.

Трэба адзначыць пры гэтым, што савецкая дыплёмацыя выказала шмат энэргіі ў рэалізацыі свайго новага зусім слушнага пляну, бо-ж маючы вялізарную небясьпеку на ўсходзе з боку Японіі, сувязь з Англіяй, якая ня менш чымсь Саветы зацікаўлена ў сваіх усходніх каленіях ды з Францыяй ў заходняй Эўропе, была для савецкай Расеі неабходнай.

Дзівіцца тут толькі трэба тым дзяржавам, якія, падпісваючы з Саветамі „пакты" й дагаворы, разьлічаюць на рэальную дапамогу з боку бальшавікоў. Не зважаючы на дэманстрацыйны разрост савецкае мілітарнае сілы, яна фактычна для саюзьнікаў савецкае Расеі ня мае амаль што ніякага рэальнага значэньня; бо-ж, памінаючы ўжо няшчырасьць, якая гранічыцца часта з цынізмам, савецкай палітыкі, у прыпадку нейкае ваеннае мяцеліцы ў Эўропе, Саветы ня змогуць фактычна даць ніякае рэальнае дапамогі сваім саюзьнікам, бо заразжа могуць быць заатакованы на ўсходзе Японіяй ды нарастаючай сілай Кітаю.

Калі-ж прыняць яшчэ пад увагу, што ўнутраны савецкі „лад" падтрымоўваецца толькі й выключна жорскім тэрорам ГПУ, дык і зусім стане ясна, што той, хто разьлічае на эфэктыўную дапамогу свайго савецкага саюзьніка, горка рашчаруецца.

*Р.*

## Мінулае, сучаснасьць і будучыня Беларусі

V.

### Нацыянальны склад б. Вял. княства Літоўскага

З пункту гледжаньня нацыянальнага Вялікае Княства Літоўскае складалася з дзьвёх зусім асобных народнасьцяў — літоўскай і беларускай, розьніцу паміж каторымі паглыбляла яшчэ веравызнаньне.

Ліцьвіны былі перш паганцамі, а пасьля ад 1386—87 г. — каталікамі; усе-ж беларусы — праваслаўнымі. Хрысьціны Літвы ды вунія яе з Польшчаю розьніцы гэнай ня толькі не аслабілі, а наадварот хутчэй яшчэ больш паглыбілі — бо-ж першая баярская прывілегія Ягайлы ў 1387 годзе і Гарадэльская ў 1413 годзе адносілася толькі да каталікоў.

Перадавым элемэнтам у палітычным разуменьні быў элемэнт літоўскі, беларускі-ж яшчэ за паганскіх часоў здабыў сабе першае месца ў значэньні культурным, ўводзячы да агульнага ўжытку ў дзяржаўныя акты, дагаворы й пісьмы, а нават на княжаскі двор сваю мову.

Мова гэная, пераказаная нам актамі й хронікамі, катору ў Маскве яшчэ да апошніх часоў называлі літоўскаю, **ёсьць мова беларуская.** Лічбова ў Вял. Кн. Літоўскім ліцьвіноў было шмат менш чымсь беларусоў.

І хоць у 1431—1440 г.г., падчас хатняе вайны Жыгімонта з Сьвідрыгайлаю, скасаваны былі агранічэньні для беларускага баярства, аднак палітычная перавага яшчэ надоўга застаецца ў руках ліцьвіноў.

На канец XV в. і пачатак XVI в., як ведама, прыпадае ў Літве пэрыяд найбольшага ўплыву так зв. Гаспадарскае Рады г. зн. магнацкага сэнату ды найбольшага агранічэньня вялікакняжаскае ўлады. На чале Гаспадарскае Рады мы бачым у гэтым часе прадстаўнікоў найбольш уплывовых літоўскіх магнацкіх родаў — як кн. Радзівілаў, Гаштолдаў, Кіржгайлаў ды інш. Лічба беларускіх баярскіх родаў была нязначная (Сапегі, Хадкевічы).

У адносінах да Польшчы гэта быў час найбольшага напружаньня літоўскага сэпаратызму ды імкненьня, да як найбольшага ўнезалежненьня. Такі стан існаваў аж да часоў Жыгімонта Аўгуста і зьмяніўся толькі дзякуючы вонкавай небясьпецы, якая пагражала з боку Масквы, а такжа пад уплывам таго, што ў Польшчы на палітычную арэну пачалі выходзіць шляхоцкія масы. Ідэал вольнасьці, які здабыла ўжо сабе польская шляхта, стаіць у яскравай супярэчнасьці з той тыраніяй магнацкіх родаў, якая яшчэ ў той час пануе ў Літве. Гэныя вось прычыны й схілілі літоўскае й беларускае баярства ў бок Польшчы. Люблінская вунія 1569 г., як кажа прафэсар Любаўскі ў кніжцы:

„Літовско-русскій сейм“ і была якраз рэзультатам перамогі шырэйшых кругоў літоўска-беларускага баярства ў Гаспадарскай Рады над магнатамі.

Люблінская вунія аднак не дала перамогі беларускаму элемэнту, як гэтага спадзяваліся яе староннікі й ініцыятары. Уплыў двара караля Жыгімонта Аўгуста супольна з акцыяй рэлігійнае рэформацыі якраз як найбольш спрыяў **да пашырэньня й польскае мовы, й польскае культуры.** Зразумела, што полёнізацыі паддалося толькі баярства ды часткова жыхары гарадоў, вёска-ж засталася ня толькі беларускай, але ступнёва пачала ці то выпіхаць, ці то беларушчыць элемэнт літоўскі. Калі прыняць пад увагу, як кажа A. Brueckner, што ліцьвіны ахвотна паслугоўваліся чужою—славянскаю моваю, як лягчэйшай ад свае роднае, дык зразумелым стане, чаму праз нейкі час этнографічная граніца што раз то болей пачынае перасоўвацца на карысьць беларусоў і ўжо у XVII веку ліцьвіны ступнёва пачынаюць пакідаць ваколіцы Вільні. Гэты працэс ступнёвага адыходу літоўскага элемэнту на захад спыніўся толькі ў палавіне XIX веку, калі пачала прабуджацца літоўская нацыянальная сьвядомасьць.

Як бачым у канцы XVI веку, побач з беларусамі й ліцьвінамі, на тэрыторыі Вял. Князьства Літоўскага, паяўляецца элемэнт польскі, каторы й здабывае сабе, дзякуючы тагачасным абставінам, перавагу ня толькі палітычную, але й культурную. Беларуская ўрадовая мова ступнёва выпіраецца з дзяржаўных актаў і замяняецца моваю польскаю. Баярства й гарадзкое жыхарства, полёнізуючыся, ступнёва выракаюцца свае роднае мовы, каторая ўрэшце сходзіць да **ролі мовы простага народу**.

Не зважаючы на ўсё гэта, сужыцьцё гэтых трох нацыянальнасьцяў у межах Вял. Кн. Літоўскага носіць характар наагул згодны.

VI.

### Барацьба з „Масквою“

Імпэрыялістычная праграма Літвы — ахапленьня ўсяе «Русі»—не магла быць зьдзейсьнена галоўным чынам дзякуючы таму, што на ўсходзе ў гэты час узмацавалася Маскоўскае княства, каторае, за панаваньне Дзімітра Данскога, сучасьніка Ягайлы й Вітальда, пачынае адыгрываць ролю галоўнае дзяржавы на ўсходзе.

Унутранай калатні, якая вялася ў другой чверці XV ст. ў Маскоўскім княстве паміж Васілём Сьляпым ды Шамякаю, Літва ня выкарыстала, будучы занятай разам з Польшчаю ў барацьбе з захадам.

Дзякуючы гэтаму-ж Літва не магла даць помачы й Вялікаму Ноўгараду ў барацьбе яго з Іванам III (1462—1505) і такім чынам апошні, канчальна заваяваўшы В. Ноўгарад (у 1479 г.), кладзе моцныя асновы пад разьвіцьцё маскоўскай магутнасьці.

З гэтаю-ж хвілінаю Іван III пачынае рэалізацыю сваіх захопніцкіх плянаў аднosна земляў Вял. Князьства Літоўскага, а пачынаючы ад Івана IV Грознага вялікія князі маскоўскія называюць сябе „Царамі ўсяе Русі“. Яшчэ за Івана III наступіў першы удар Маскоўскага князя на беларускія землі. Барацьба, якую вяла перш Літва, а пасьля злучаная Рэспубліка*) з Масквою, аж да канчальнага падзелу Польшчы, — вялася галоўным чынам на беларускіх землях—у Смаленшчыне, каторая чаргова й пераходзіла з рук у рукі: у 1514 г. да Масквы, ў 1611 г. да Польшчы, ў 1654 ізноў да Масквы.

Аднак толькі канчальны падзел Польшчы даў магчымасьць Маскве, ці лепш кажучы ўжо Расеі, злучыць усе землі колішняе „Русі“.

*) Польшча і Вял. Кн. Літоўскае.

VII.

### Даўгі пэрыяд Расейскай акупацыі Беларусі.

Палітыка Расеі на Беларускіх землях палягала на тым, што беларусоў лічылі часткаю вялікага „русскаго“ народу і дзеля гэтага ўважалі, што беларускі народ павінен цалком і палітычна й языкова зьліцца з народам расейскім, ці інакш кажучы вялікарускім. Адсюль і праводзіцца самая пляновая й жорсткая русыфікацыя.

З другога боку якраз на пачатак гэтага пэрыяду прыпадае найбольшае разьвіцьцё польскае культуры, зьвязанае з трыццацілетняю дзеяльнасьцяй ўзноўленага Віленскага Універсытэту (1803 г.—1832 г.), калі Вільня сталася наагул галоўным цэнтрам польскае культуры.

Як бачым, у гэтым часе на Беларусі крыжаваліся ўплывы: расейскі й польскі. Падчас паўстаньня 1863—1864 г. бачым з боку палякаў першую спробу ўцягнуць у гэтую барацьбу і беларусоў. Дзеяльнасьць прадстаўніка „чырвоных“ Кастуся Каліноўскага зьяўляецца найлепшым гэтага доказам. І хоць „панская“ прапаганда не магла мець тады пасьпеху сярод беларускага сялянства, аднак рэвалюцыйныя ідэі, кінутыя ў беларускія масы ў роднай беларускай мове, далі той позытыўны вынік, што пазволілі польскім паўстанскім партыям даўжэйшы час працаваць на беларускіх землях. Адносіны беларускага селянства да польскіх паўстанцаў былі нічуць ня горшыя, а мо' нават і лепшыя, чымсь на некаторых землях каранное Польшчы.

У пазьнейшым пэрыядзе беларуская інтэлігенцыя супольна з палякамі змагаецца з русыфікацыяй, праводжанай Царатам, а беларускія соцыялісты вядуць сваю рэвалюцыйную працу ў самай цеснай сувязі з П.П.С. (Польскай Партыяй Соцыяліст.)

Трэба тут адзначыць, што ў часы жорсткай царскай рэакцыі палякі былі ў пэўным прывілегіраваным палажэньні ў параўнаньні да беларусоў, бо-ж як ніяк мелі права на сваё друкаванае слова, а беларусам і гэта забаранялася.

## Досьледы 16-ці гадоў.

Школьнае пытаньне было ад самага пачатку праблемай балючай, а ня вырашанай на шляху да наладжаньня беларуска-польскіх суадносінаў.

Польскі нацыяналізм меў пераможны уплыў на вызначаньне напрамкаў дзяржаўнае палітыкі Польшчы ўва ўсіх яе праявах.

Нічога тады дзіўнага, што ўсе сілы, ўся энергія была накіравана на тое, каб нас, беларусоў, сполёнізаваць. Кароткі пэрыяд ураду Вітальда Абрамовіча у т. зв. Сярэдняй Літве (меншая ступень залежнасьці ад цэнтру) ёсьць адзіным карысным выняткам для палітычнага розуму маладых дзяржаўных палітыкаў. У гэтым пэрыядзе беларусы змаглі разгарнуць сваё пачаткавае і сярэдняе школьніцтва.

Але гэтакі курс скончыўся разам з адстаўкай Вітальда Абрамовіча. Пазьней нават частка польскіх дэмакратаў паверыла ў магчымасьць нацыянальнае асыміляцыі (дэнацыяналізацыі) беларусоў, галоўным чынам праз польскую школу. Яны моўчкі толеравалі і толеруюць існаваўшы і існуючы стан рэчаў, а школьная палітыка (хоць ад 1926 году польскі нацыяналізм ня мае рашучага ўплыву на дзяржаўную палітыку), як бы па інэрцыі зьяўлаецца прадаўжэньнем тае праграмнай лініі, якую ёй вызначылі Грабскі і Скульскі.

У імя праўды трэба адзначыць, што беларусы не абмінулі ніводнай магчымасьці, каб здабыць школьніцтва ў роднай мове. Няспрыяючыя абставіны грамадзка-палітычнага жыцьця аказаліся сільнейшымі. Беларусы ў Польшчы асталіся пры аднэй, змагаючайся бязупынна з матэрьяльнымі труднасьцямі, гімназіі і некалькіх пачаткавых беларускіх школах.

З другога боку сетка польскага пачаткавага школьніцтва разбудоўвалася. Праўда, гады крызісу вельмі ад'емна адбіліся на школьніцтве, асабліва пачаткавым.

Паменшаны бюджэт Міністэрства Асьветы паставіў у цяжкое

Бажэнаў.

## Шустрая бабулька.

### Камэдыя ў І акце.

Пераклад з расейскага *В. Г.*

(Гл. № 9 „Роднага Краю“).

Ключк. Вельмі добра, з сёньнешняга дня, вы больш ня будзеце хадзіць у гімназію.

Глаша. Ах, бабулька, мне яшчэ трэба вучыцца! Я нядаўна бачыла, як Насьця пісала пісьмо да вучыцеля літэратуры і ці паверыце, па лінейках... Аж страх!

Ключк. Як, і вучыцель літэратуры такі самы?

Глаша. Што гэта з вамі, бабулька? Ён такі прыгожы.

Ключк. Ані слова болей. Я цябе пасылаю не дзеля гэтага. Вучыцель гісторыі рукі цісьне, а да вучыцеля літэратуры пішуць пісьмы—гэта ўжо немагчыма.

Глаша. Ах, як мы шануем і кахаем нашых добрых вучыцялёў! Паслухайце бабулька, вы мяне кахаеце?

Ключк Ведама, ці-ж ты гэтага сама ня бачыш?

Глаша. Вельмі моцна?

Ключк. Ды як цябе ня любіць, маё дзіця. Ты засталася круглаю сіратою пад маёй апекай. Хутка пасьля сьмерці мае Ганначкі, мой муж, твой дзед, паехаў у Амэрыку і вось ужо 12 гадоў аб ім ні слуху, ні духу, як утапіўся.

Глаша. Дык ён утапіўся?

Ключк. Мусіць утапіўся, мой залаты. Як я ні старалася даведацца аб ім, усё надарма. Ты мне толькі адна засталася на пацеху.

Глаша. Ну, калі вы сапраўды кахаеце мяне, дык не абразіцеся на мяне за маю просьбу.

Ключк. Я ведаю, чаго табе хочацца, пястун ты...

Глаша. Няўжо-ж ведаеце?

Ключк. Ведаю, ведаю... Мусіць гумовага катка, якога ты бачыла ў Насьці.

Глаша. Вось ня бачалы чаго. Я нават і ня думала.

Ключк. Ну, мусіць, тады ляльку з шафаю? Супакойся, я аб гэтым падумала. Сёньня прынясуць табе цэлую скрыню цацак, якія я табе ўчора купіла.

Глаша. Фу, бабулька, якая-ж вы немагчымая! Адно толькі і ведаеце, то каток, то лялькі!

Ключк. Ну, дык мусіць захацелася цукерак? Якая-ж ты ласая!

Глаша. Зусім ня трэба мне цукерак.

Ключк. Чаго-ж ты хочаш, нарэшче.

Глаша. Мужа, мілая бабулька! Калі ласка, хутчэй пашукайце мне мужа.

Ключк. Мужа?! Ці ты часам не зварʻяцела? Калі ласка! Мае 16 гадоў і ўжо ёй патрэбны муж — які цяпер век! Цяпер дзяцей ужо няма!

Глаша. Ну, ведама. Мне ўжо, нарэшце, абрыдла ўсё адно і тое, няма з кім пагуляць, пазабаўляцца.

Ключк. Дык табе толькі на гэта патрэбны муж?

Глаша. А на што-ж болей?

Ключк. Ах, ты пястун. Хіба-ж ня маеш з кім гуляць?

Глаша. Ведама што ня маю.

Ключк. Як ня маеш з кім! А Насьця?

Глаша. Насьця рэдка прыходзіць да нас: вы ўсё на яе злые. Яна мяне намовіла выйсьці замуж, каб гледзячы на мяне і яе хутчэй аддалі.

Ключк. Дык гэта яна цябе навучыла? Якая ветраная дзяўчына. Ну, можаш са мною забаўляцца!

Глаша. Ды вы, бабулька, ледзь ходзіце, а я люблю бегаць. Не, не, даражэнькая бабулька, аддайце мяне хутчэй замуж, а то мне вельмі сумна.

Ключк Ды сьціхні ты. Добра, што тутака няма нікога, а то які стыд. Бяры ад мяне прыклад: чаму мне ня сумна. А я старэйшая чым ты.

Глаша. Але-ж у вас быў муж.

Ключк. Нават два. Дык што-ж такое? Гэта-ж нічога ня знача; магу выйсьці і за трэцяга.

Глаша. Як? У вас было два мужа, а ў мяне два дзядулькі. Ах, як гэта добра! Вы кажаце, што і за трэцяга можна выйсьці.

Ключк. Можна, маё дзіця.

Глаша. Як гэта мала. Хаця й трох хопіць. З часам я выйду замуж за трох. А цяпер, бабулька, дазвольце мець толькі аднаго, зрабіце ласку, пацешце мяне хоць раз у жыцьці (пяе).

(Працяг будзе).

## Наколькі ўжо азброілася Нямеччына?

Ангельская газэта „Daily Mail“ прыводзіць дакладны падрахунак аб ліку нямецкае арміі, зроблены на аснове дадзеных, якімі карыстаўся ў сваіх нядаўных прамовах і савецкі „гэнерал“ Тухачэўскі.

Збройныя сілы Нямеччыны выглядаюць гэтак:

Авіяцыйныя фабрыкі выпушчаюць штодня 15 новых аэрапланаў. Нямецкі паветраны флёт складаецца з 12-цёх аддзелаў у буйнейшых авіяцыйных цэнтрах. У іх уваходзіць 2100 бомбакідаў і аэрапланаў-разьведчыкаў. Шаснаццаць аддзелаў арганізована гэнералам Гэрынгам у важных стратэгічных пунктах. У іх — 1600 паветраных баявых самалётаў і дадатковых машынаў. Агульны лік машынаў—3.700. Лік людзей—8.000 афіцароў ды 52.000 афіцароў запасу і радавых. Апрача таго існуе 16 аддзелаў „лятуноў-аматараў“, а цывільная ав ацыя мае 60.000 пілётаў, якія павялічваюць лік людзей у нямецкай авіацыі да 120.000 чал.

Сілы нямецкае арміі дзеляцца гэтак:

*Пяхота* налічвае агулам 546 тысяч чалавек. У выпадку вайны Нямеччына незабаўна зможа рушыць у бой 108 пяхотных дывізіяў, у кожную з якіх уваходзіць таксама па два артылерыйскія палкі—лёгкі і цяжкі, – батальён танкаў, батальён службы сувязі і хімічны аддзел, або разам каля 15.000 чалавек.

*Коньніца* налічвае 5 конных дывізіяў і 10 самаходных (аўтамобільных) палкоў з агульным лікам 51.000 чалавек.

*Артылерыя*—ў дадатак да аддзелаў, улучаных у склад пяхоты і коньніцы, мае 12 рэзэрвовых палкоў, 12 лінейных артылерыйскіх палкоў і 12 цяжкіх дывізіяў берагавое абароны. Агульны лік—54.000 чалавек.

*Змэханізованыя аддзелы:* — 1 маторная дывізія (15.000 чалавек), 4 змэханізованыя брыгады (12.000 чал.), 12 танкавых батальёнаў (6.000 чал.), ня лічачы танкавых аддзелаў, што ўваходзяць у пяхоту ды коньніцу. У службе сувязі, сапэрах і хімічных аддзелах агулам 22.000 чал. Вайсковыя школы ды іншыя арганізацыі міністэрства абароны даюць яшчэ 60.000 чалавек.

*Флёт*:—агульны лік караблёў, як рэзэрвовых, так і тых, што яшчэ будуюцца, дасягае 101, лік экіпажу—22.600 чалавек.

Агульны лік нямецкага войска гэтым летам дайдзе да 909.000 чалавек. Замераная Нямеччынай праграма азбраеньня будзе выпаўнена ў 1936 годзе.

Апрача рэгулярнае арміі трэба мець на ўвазе сілы ўсялякіх нямецкіх паўваенных арганізацыяў. Штурмавікоў — 21 аддзел (400.000 чалавек), „Чорная гвардыя“—7 аддзелаў (40 000 чал.), работніцкі фронт—30 аддзелаў (300.000 чал.), пагранічнікі — 21 аддзел (50.000 чал.), паліцыя—110.000 чалавек. А разам — таксама 900.000 чалавек.

## Няўдачы савецкіх бязбожнікаў.

Ангельскія газэты пішуць, што ў сёлетнім годзе, бязбожнікі ў СССР, паводле свайго звычаю, стараліся правясьці шырокую акцыю барацьбы з рэлігіяй, у сувязі з сьвятам Вялікадня.

Павадыр бязбожнікаў Яраслаўскі зьмясьціў у часопісе „Безбожник“ адозву, зазначаючы ў ёй, што праца бязбожнікаў ня толькі не зьмяншаецца, а, наадварот, аднаўляецца з новаю сілай.

У адозьве, паміж іншым, гаворыцца: „Мы хочам цэрквы ўсяго сьвету затапіць у моры полымя. За 17 гадоў дыктатуры пралетарыяту наш бязбожніцкі рух зрабіўся масавым рухам. Ён цяпер зьяўляецца адным з найважнейшых фактараў рэвалюцыі, наймагутнейшым фактарам соцыялістычнае перабудовы сьвету. Мы павінны яшчэ больш узмацніць нашу проціpэлігійную работу, якая падкопвае фундамэнт старога сьвету. Мы павінны мільёны работнікаў і сялян аб'яднаць пад штандарам барацьбітаў за бязбожжа“...

У адозьве пішацца, што вольнадумцы ўсяго сьвету павінны прылучыцца да барацьбы за бязбожжа.

Побач з гэткаю ўзмоцненаю агітацыяй, у бязбожніцкіх газэтах, шырока разьвінена была процівялікодная акцыя ў гарадох і калгасах. Ленінградзкі „Дом Бязбожніка“ пастанавіў правясьці шмат мерапрыемстваў у духу ганьбы на Бога—гутарак, лекцыяў, „культпаходаў“ і іншых выступленьняў, пасьвячаных сьвяту Вялікадня.

18-га красавіка „Дом Бязбожніка“ зладзіў агульна-гарадзкі дзіцячы ранешнік „Чыё сьвята Вялікдзень?“ 20-га красавіка адбылася вечарына — „Паходжаньне і клясавы зьмест Вялікадня“. Экскурсіям паказвалі новыя выстаўкі, адкрытыя ў проціpэлігійным музэі—былым Ісаакаўскім саборы.

Аднак-жа ўсе гэтыя стараньні бязбожнікаў, абапёртых на магутны апарат дзяржаўнага прымусу і бязьлітаснага тэрору, засталіся бясплоднымі. Ня гледзячы на адноўлены наступ бязбожнікаў і шырока праведзеную процівялікодную акцыю, праваслаўнае сьвята Вялікадня ў Маскве сьвяткавалася нязвычайна ўрачыста. Усе, неразгромленыя яшчэ бальшавікамі, цэрквы былі поўныя народу.

## З краю.

— У Вільні вядзецца падрыхтоўка да адкрыцьця 2-га Футранога Кірмашу. Сёлетні кірмаш, які пачнецца ў чэрвені, будзе мець выключна гандлёвы характар. Прадбачыцца адкрыцё на кірмашы 60 заляў У сувязі з кірмашом адбудзецца ў Вільні з'езд гандляроў і прамыслоўцаў з усяе Польшчы.

— Міністар Асьветы зьмяніў распараджэньне ад 4 мая аб арганізацыі школьнага году. Згодна з новым распараджэньнем, вучэбны год пачынаецца 1-га верасьня і канчаецца 31 жніўня. Канец першых паўгодкаў — 22 сьнежня; зімовыя фэрыі пачынаюцца 23 сьнежня і канчаюцца 9 студзеня. Другія паўгодкі трываюць ад 10 студзеня да 21 чэрвеня ўключна, а летнія фэрыі ад 22 чэрвеня да 31 жніўня.

Бягучы школьны год закончыцца яшчэ па старым правілам, г. зн. 15 чэрвеня, а школьныя заняткі пачнуцца 3-га верасьня. Дзякуючы гэтаму сёлетнія фэрыі будуць выняткова даўгімі.

— Міністэрства Фінансаў разаслала абежнік усім скарбовым інстытуцыям, у якім падчырківае, што разьмер падпіскі на інвэстыцыйную пазычку ніякім чынам не падпадае пад 98 § падатковага закону, які кажа, што дзяржаўны даходны падатак можа быць устаноўлены на падставе вонкавых прызнакаў, якія сьведчаць аб эканамічным палажэньні асобы, якая мае гэта падатак заплаціць.

## У апошнюю хвіліну.

*Савецкі* ўрад адмовіў выдаць візы на ўезд у СССР некаторым францускім журналістам, у тым ліку корэспондэнту «Матэн“.

«Матэн» і «Ле Журналь» у сувязі з гэтым рэзка пратэстуюць у сваіх артыкулах проці адмовы выданьня візаў іх супрацоўнікам. „Журналь“ заяўляе, што не пашле свайго супрацоўніка ў СССР нават тагды, калі савецкі ўрад зьменіць сваю пастанову.

Гэта першы падарак СССР для саюзнай Францыі пасьля заключэньня француска-савецкага дагавору.

# Гаспадарчы аддзел.

### Тапінамбур (бульва).

Тапінамбур у сваёй надземнай частцы вельмі падобны да сонешніка, ад каторага адрозьніваецца тым, што выдае, як бульба клубні. Тапінамбур, як і бульба, амэрыканскага паходжаньня. Калісьці ў Эўропе тапінамбур разводзілі ў шырокім маштабе, але з часам гэтая расьліна штораз то больш уступала сваё месца бульбе і цяпер аб ёй амаль зусім забыліся. Тымчасам тапінамбур заслугоўвае на ўвагу. Перш за ўсё зьяўляецца ён расьлінай, якая здавальняецца горшым грунтам, чым бульба. Тапінамбур можа расьці на бедных і плыткіх глебах. Толькі глебы залішня вільготныя не надаюцца для яго. Выгадна гэтая расьліна яшчэ і тым, што яна можа на адным месцы расьці некалькі гадоў сраду. Апрача таго, клубні тапінамбуру можна пакінуць у зямлі праз цэлую зіму, аж да вясны. Гэта вельмі важна, бо пад вясну, звычайна ў гаспадарцы бывае замала корму, а нават і той, які ёсьць, не заўсёды ўжо добры. Маючы тапінамбур, мы яго капаем вясною і такім чынам маем сьвежы, сочны корм для жывёлы, бо татінамбур, перазімаваўшы ў зямлі, куды смачнейшы чымсь у восені. Праўда, клубні тапінамбуру больш вадзяністыя чымсь клубні бульбы, але затое лепей травяцца жывёлаю. Вось-жа ўсё гэта прамаўляе бязумоўна за тое, што гаспадары нашы павінны побач з звычайнаю бульбаю, на горшых частках поля, садзіць тапінамбур.

Садзіць тапінамбур можна вясною і восеньню. Калі вясна сухая, то лепшай будзе пасадка васеньняя. Тапінамбур усходзіць вельмі позна, бо адразу патрабуе шмат цяпла, але затое потым расьце даволі хутка. Садзяць яго вясною прыблізна ў палове траўня. Тапінамбур вельмі добра расьце на глебе ўдабронай хлеўным гноем. Калі тапінамбур расьце на адным месцы некалькі гадоў сразу, то глебу на яго пасадку хопіць угнаіць толькі паташовай сольлю і супэрфосфатам.

Садзіць тапінамбур трэба ў радкох, аддалёных ад сябе 60 цэнт. і адзін клубень ад другога ў радку на адлегласьці 40 цэнт. Таўшчыня прыкрыцьця не павінна быць большай 5—8 цэнт. Глыбока пасаджаны тапінамбур дае меншы ўраджай. Садзіць лепш за ўсё цэлымі клубнямі

Дагляд за тапінамбурам такі самы, як і за бульбай. Пасеў яго спачатку барануецца, пасьля матыкуецца і абганяецца. Трэба аднак, зазначыць, што абганяньне не абавязковае. Калі тапінамбур расьце на адным месцы некалькі гадоў, то тагды, пачынаючы з другога году, зямлю трэба штогод варушыць толькі паміж радкамі.

Тапінамбур прыносіць карысьць ня толькі сваімі клубнямі, але таксама сваёю надземнай часткаю. Сцеблы паабрэзваныя у канцы верасьня або ў кастрычніку і заквашаныя даюць вельмі добры корм для рагатае жывёлы. Можна сьцеблы з лісьцямі сушыць, але тады становяцца яны зданадта цьвёрдымі.

Тапінамбур сустракаецца ў некалькіх сартох. Пазнаць кожны сорт можна па колеру яго клубняў. Ёсьць сарты з белымі, жоўтымі і чырвонымі клубнямі. Тапінамбур з белымі і жоўтымі клубнямі больш ураджайны і смачнейшы, але затое чырвоныя клубні маюць у сабе болей бялку.

*М.*

### Ячмень, як лячнічы сродак.

Многія спэцыялісты гадоўлі жывёлы сьцьвердзілі, што каровы, кормленыя 6 тыдняў перад ацяленьнем ячменям, звычайна ня маюць цяжкіх randaродаў. Ячменных зярнят даецца $^{1}/_{2}$ літра на штуку; зерняты, перад тым, як іх даваць жывёле, павінны пэўны час мокнуць у вадзе, каб належна разбухлі.

### Як усьцерагчы раньні пасеў гуркоў ад прымарозкаў.

Рана пасаджаныя гуркі на адкрытым агародзе вельмі часта церпяць ад прымарозкаў. Адзін з спосабаў забясьпечаньня гуркоў ад холаду наступны: гуркі садзяцца ў адну лінію і на ноч прыкрываюцца спэцыяльным дашком з дошак. Дашок робіцца так: бяруць дзьве дошкі, прыкладаюць іх да сябе пад простым кутом і зьбіваюць іх гваздамі.

Калі такім дашком прыкрыць радок гуркоў, то на канцох яго застануцца дзюркі, якія трэба пазатыкаць саломаю. На дзень дашок адкідаецца на паўночны бок радка і такім чынам ён ня толькі не заценяе гуркоў, але яшчэ бароніць іх ад халодных паўночных ветраў.

### Як забясьпечыць сады і агароды ад прымарозкаў.

Вельмі часта ў палове мая здараюцца прымарозкі, ад каторых моцна церпяць разьцьвіўшыя сады. Каб паралiжаваць руйнуючы уплыў прымарозкаў, трэба ў садох і агародах, у якіх расьце чулая на прымарозкі расьліна, загадзя прыгатаваць кучы featureрознага сьмецьця і гною ў паўночнай і ўсходняй іх частках, адкуль дуюць халодныя вятры. Зрабіўшы ўсё гэта, трэба пільна сачыць за тэмпэратураю. І вось, як толькі тэмпэратура спадзе ніжэй 2 градусаў Ц., тагды трэба адразу запаліць прыгатаваныя кучы сьмецьця ці гною. Вытварыўшыйся такім спосабам дым перашкаджае паверхні зямлі і бліжэйшым да яе слаям паветра далей астуджацца.

*М.*

### Гумаваньне ў костачкавых дрэваў.

Вельмі часта на вішнях, чарэшнях і сьлівах на некаторых месцах можна пабачыць густую клейкую масу, якую звычайна ў вёсцы завуць клеем. Тыя месцы, дзе знаходзіцца „клей“, заражаныя і там заўсёды знаходзіцца большая ці меншая ранка, якая ўсьцяж павялічваецца. Прычынаў гэтае хваробы шмат. Найбольш папулярная з іх гэта звычайнае механічнае пашкоджаньне, выкліканае ламаньнем або абрэзваньнем галінаў. Вось-жа таму якраз *костачкавых дрэваў і ня можна абрэзваць*. Нямецкі праф. Sorauer цьвердзіць, што прычынаю гумаваньня костачкавых дрэваў можа быць таксама і залішня гнойны грунт, пры тым вільготны.

Не дапусьціць да гумаваньня вельмі лёгка, трэба толькі ў красавіку або маі надрэзваць кару ў костачкавых дрэваў. Праводзіцца гэта наступным спосабам: вострым нажом не далёка адзін ад другога робяцца кароткія надрэзы кары. Мёртвая кара павінна быць прарэзана зусім аж да жывых частак, а самыя надрэзы трэба рабіць ня ўздоўж пня, а трохі наўкос.

Калі такія опэрацыі на костачкавых дрэвах дагэтуль не рабіліся і на дрэвах у нейкім месцы зьявіўся „клей“, то тады трэба гэтае хворае месца вырэзаць вострым нажом начыста аж да здаровых частак. Так ачышчанае месца вельмі карысна націраць у працягу 3-х дзён воцтам або шчавельным сокам, а пасьля рану трэба замазаць смалоўцам (смала пeратопленая з аліваю). Надрэзваньне кары костачкавых дрэваў трэба рабіць штогод, бо яно ня толькі забясьпечвае дрэвы ад гумаваньня, але таксама добра прычыняецца да росту і грубеньня пня.

*С. Т.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тэл. 21-14.